# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 23 (1778) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 10 ЧЭРВЕНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.





## IX ДНІ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ

Ад 10 да 13 мая праходзіў у Гайнаўцы ў саборы Св. Тройцы чарговы IX фестываль царкоўнай музыкі. Праз чатыры дні ў падвячэрнія гадзіны збіраліся ў царкве людзі, каб, у сціску седзячы і стоячы, паслухаць найпрыгажэйшае мастацтва — праваслаўны царкоўны спеў. У царкве, як заўсёды, нельга біць апладысментаў. Канцэрты праходзілі ў цішыні, „з затоеным дыханнем". І толькі часам адзываліся маленькія дзеці. Дзяцей на сёлетнім царкоўным фестывалі прысутнічала многа. Гэта добры знак.

Урачыстым канцэртам 10 мая адкрыў гайнаўскі фестываль змешаны царкоўны хор сабора Святой Тройцы ў Гайнаўцы пад кіраўніцтвам а. Міхала Негярэвіча — мінулагодні лаўрэат у катэгорыі царкоўных хораў. Слаўны хор! Я аб ім пісала ўжо. І сёння скажу, што хор апраўдвае найлепшыя спадзяванні беларускага праваслаўнага люду ўсяе Беласточчыны. Хор пабываў з дзесяццю канцэртамі ў Фінляндыі, дзе здабыў вялікае прызнанне. Вялікія і складаныя кампазіцыі Д. Бартнянскага, А. Архангельскага, А. Сцяпанава хор выканаў дасканала. Хор адкрыў фестываль і ў далейшым, згодна з правіламі конкурсу, не выступаў.

Пятніца, 11 мая, была першым днём конкурсных выступленняў. Мы слухалі чатыры хоры: хор душпастырства Варшаўска-бельскай епархіі, які існуе пры саборы Св. Тройцы ў Гайнаўцы і працуе таксама пад кіраўніцтвам а. М. Негярэвіча, хоры з Орлі і са Старога Ляўкова, а таксама „Ісон" — хор сабора св. Мікалая ў Беластоку. На заканчэнне па-за конкурсам выступіў хлапечы хор музычнай школы з беларускага Мінска. Мінскі хор быў запрошаны маладзёжным царкоўным хорам гайнаўскага сабора. Хочацца сказаць, што гэтае запрашэнне дало пачатак цудоўнай справе — братэрскаму непасрэднаму абмену паміж людзьмі і групамі людзей, якія служаць той самай ідэі.

Хор душпастырства Варшаўска-бельскай епархіі існуе нямногім больш года. Гэта цудоўныя галасы, глыбокае ўкараненне ў праваслаўным спеве. У іх праграме найбольш кіеўскіх распеваў. Гэта хор, які ў будучыні мае шанцы стаць сапраўды рэпрэзентацыйным хорам Беласточчыны.

Упершыню прыехалі на фестываль хоры з Орлі і са Старога Ляўкова. Абодва больш чым дваццаціасабовыя, з вялікай перавагай жанчын. Арлянскім хорам кіруе Дзмітры Мартыновіч (малады, энергічны), ляўкоўскім — вядомы нам апякун беларускага дзіцячага хору Васіль Целушэцкі. У абодвух хорах многія спевакі з беларускіх народных калектываў, якія штогод прымаюць удзел у конкурсах беларускай песні.

Сваім маральным абавязкам лічу патрэбным выправіць адну памылку, якая апынулася ў праграме IX гайнаўскага фестывалю, і якую паўтарыў канферансье: заснавальнікам і шматгадовым дырыжорам праваслаўнага прыхадскога хору ў Орлі (як і заснавальнікам і шматгадовым дырыжорам народнага хору ў Орлі і музычнага інструментальнага калектыву) быў шырока вядомы, вельмі паважаны і нястомны прапагандыст роднай песні Радзівон Агіевіч (а не Аўдзіевіч — такога прозвішча ўвогуле ў Орлі няма). Радзівона Агіевіча ўжо няма сярод жывых, але я з глыбокай пашанай схіляю галаву, успамінаючы аб Ім.

У абодвух вясковых хораў многа вата нярбўнасцяў. Але я, як і многія любіцелі царкоўнага спеву, вельмі цешуся, што нарэшце сапраўдныя царкоўныя хоры ўвайшлі ў гайнаўскі фестываль. Не трэба гаварыць, як яны самі гэта перажывалі. Ды пачаткі заўсёды нялёгкія, тым больш, што рэпертуар выбралі не па сваіх сілах. І тут маю прэтэнзію да арганізатараў. Я ўжо, здаецца, успамінала некалі, што на гайнаўскім фестывалі ў рэпертуар паасобных хораў уключаны, як правіла, вельмі складаныя творы такіх кампазітараў, як Д. Бартнянскі, А. Архангельскі, П. Часнакоў, П

(Працяг на стар. 6)



### ПРЫЯЗДЖАЙЦЕ НА ФЕСТЫВАЛЬ!

**16—17 чэрвеня 1990 г. у беластоцкім амфітэатры адбудзецца I фестываль беларускай песні.**

**Адкрыццё фестывалю — у 16 гадзін у суботу.**

**Пачнецца фестываль конкурсам фальклорна-традыцыйнага выканання беларускіх песень. Выступяць спевакі з Беласточчыны, Бельшчыны, Гайнаўшчыны, Дуброўшчыны, ваколіц Сямяцічаў і Гарадка — усе, хто ў лютым гэтага года стаў лаўрэатам Цэнтральнага агляду „Беларуская песня '90", а таксама калектывы з Гродзеншчыны і Віцебска.**

**У другой частцы фестывальнага конкурсу, прысвечанага сучасна-эстраднаму выкананню беларускіх песень, выступяць салісты, вакальныя групы і рок-гурты з Беласточчыны, папулярныя ўжо сярод нашых гледачоў і слухачоў, а таксама госці з Беларусі — слаўныя рок-гурты „Уліс" і „Мроя" з Мінска і „Грамада" з Віцебска.**

**Канцэрт лаўрэатаў адбудзецца ў нядзелю 17 чэрвеня, пачатак у 17 гадзін.**

**На фестывалі выступіць „Тэатр мод" з Мінска. Найпрыгажэйшыя мінчанкі будуць паказваць модную вопратку. Гэта, напэўна, зацікавіць усіх. Арганізатары гарантуюць моцныя эстэтычныя ўражанні.**

**Вакол амфітэатра будзе арганізаваны беларускі кірмаш з удзелам гродзенскіх вытворцаў. Можна будзе купіць цікавыя тавары. Нашы пісьменнікі будуць падпісваць свае кніжкі.**

**Сябры! Не пашкадуйце ні часу, ні грошай! Прыязджайце ў Беласток. Пераначуйце ў сваякоў ці знаёмых. Няхай фестываль стане нашым святам, а песні з'ядноўваюць нашыя сэрцы. Білеты і карнеты на фестываль прадавацца будуць ва ўсіх аддзелах БГКТ.**



— 3 —

# АБ'ЯДНАНАЯ ГЕРМАНІЯ

Зразумела, што мая ідэя поўнай дэмілітарызацыі Германіі з'яўляецца нерэальнай. Бо і як уявіць сабе, што першы ў Еўропе і адзін з першых у свеце эканамічных волатаў дазволіць накінуць непажаданыя для сябе вырашэнні. Уз'яднаная Германія будзе дыктаваць Еўропе і свету свае эканамічна-тэхналагічна-фінансавыя законы. Кожная з еўрапейскіх краін будзе старацца прыпадабацца Германіі. Супрацоўніцтвам з ёю будуць зацікаўлены усе народы свету. Ці ж такая магутная краіна не знойдзе спосабаў на тое, каб здабыць падтрымку для сваіх мэт і ідэй, у тым ліку і мілітарных? Знойдзе. Зрэшты, адкуль вядома, што такая магутная краіна не знойдзе спосабу на тое, каб мірным шляхам дасягнуць таго, чаго дасягала пры дапамозе мілітарных дзеянняў? Так ці інакш, думаецца мне, што нямецкі народ чакае добрая будучыня. Баюся, што будучыня іх значна лепшая ад той, якая чакае славянскія народы, асабліва палякаў, беларусаў, рускіх, украінцаў і югаславаў. Народы гэтыя ніколі не валодалі той ступенню тэхнічнага ўмельства, самадысцыпліны, працавітасці і паслядоўнасці, якою валодалі і валодаюць немцы. І таму не маем вялікіх шанцаў у так званым мірным спаборніцтве. Аб вайне паміж нашымі народамі і немцамі ў будучыні наогул баюся думаць. Магутная нямецкая армія, выкарыстоўваючы дасканалую нямецкую тэхніку, тэхналогію, электроніку, зможа, як нож у масла, урэзацца ў любы славянскі народ. І толькі адзінства гэтых народаў можа стаць перашкодай для нямецкай мілітарнай экспансіі. Палітыкі, думаючы аб будучыні, павінны прадбачыць розныя магчымыя варыянты, у тым ліку і мілітарны варыянт. Здаецца мне, што славянскія народы не напярэдадні вайны або ў час яе, а ўжо сёння павінны супрацьстаяць нямецкаму таталітарызму еднасцю ідэй і мэт. Якраз на канферэнцыі, якая ўжо пачала сваю працу, ідэі гэтай еднасці павінны праявіцца. Аднак, як відаць, гэтага не будзе. У славянскіх краінах не былі праведзены ні плебісцыты, ні якія-небудзь апытанні, якія выявілі б волю славянскіх народаў у справе аб'яднання Германіі. Наогул мне здаецца, што на ўспомненай канферэнцыі павінны рэалізавацца не формулы 4 + 2 ці 4 + 3, а павінны ў ёй удзельнічаць прадстаўнікі ўсіх народаў, якія былі ахвярамі нямецкай агрэсіі ў другой сусветнай вайне. А што датычыцца права аб'яднанай Германіі мець вялікую сучасную армію, дык было б найлепш, калі б ва ўсіх еўрапейскіх краінах быў праведзены плебісцыт. Няхай усе еўрапейскія народы вырашылі б гэтую справу, а не нейкія 4 + 2.

Аднак аб такім вырашэнні справы ніхто нават не заікнуўся. Будуць яе вырашаць не народы, а толькі шэсць еўрапейскіх урадаў, сярод якіх аж два — гэта нямецкія ўрады. Бяда ўся ў тым, што калі ў будучыні дойдзе да бяды і Еўропа апынецца перад пагрозай нямецкага мілітарызму, увесь цяжар вайны, поўна, ляжа не на тыя чатыры ўрады, якія (апрача двух нямецкіх) удзельнічаюць у канферэнцыі, а на еўрапейскія народы.

Хтосьці можа сказаць, што нямецкае грамадства ўсё болей дэмакратызуецца і што з яго боку Еўропе не будзе ніякай пагрозы. Нельга злоўжываць такім аптымізмам. Вядома, што ў сённяшніх дзвюх Германіях ёсць нямала груповак, якія яўна прапагуюць гітлераўскую ідэалогію. Перанялі яны ад Гітлера не толькі ідэі, але і знешнюю сімволіку, ад якой церпне скура ў людзей, памятаючых гітлераўскія жалезныя кагорты. Уся бяда ў тым, што гітлераўскія ідэі гнездзяцца сёння не ў сэрцах недабіткаў з-пад Сталінграда ці Курска, але ў душах маладых шаснаццаці-дваццацігадовых юнакоў. Ці гэтыя, сёння невялікія групы не стануць магутнымі аб'яднаннямі ў будучыні? Не ведаем. У кожным выпадку, еўрапейскія народы павінны браць пад увагу і такую грозную магчымасць. Адным словам, пытанняў і сумненняў у гэтай справе вельмі многа. А з другога боку вядома, што нямецкая нацыя не можа мець меншых, болей абмежаваных правоў, чым правы ўсіх іншых еўрапейскіх народаў. Датычыць гэтага і права да ўз'яднання, і права да выбару палітычнай і грамадскай сістэмы, і нават права да арміі. Вось і ўся невырашальная пакуль што дылема, дылема інтарэсаў еўрапейскіх народаў і інтарэсаў нямецкага народа. Ці знойдзецца геній, які вырашыць гэту праблему так, каб былі задаволены ўсе ў аднолькавай ступені? Думаю, што не знойдзецца.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Сейм прыняў закон аб палітычных партыях.** Паводле яго партыям нельга весці сваю дзейнасць у месцах працы, у тым ліку ў войску і паліцыі. Да заявы аб рэгістрацыі партыі трэба далучыць тысячу подпісаў людзей, падтрымоўваючых яе дзейнасць.

**Працягваецца вывядзенне савецкіх войскаў з Польшчы.** У Белагардзе (Кашалінскае ваяводства) адбылася ўрачыстасць развітання палка з размешчанай там дэсантнай брыгады. У Легніцы два члены Канфедэрацыі незалежнай Польшчы працягваюць галадоўку ў знак пратэсту супраць размяшчэння войскаў Савецкай Арміі ў Польшчы. Вывад савецкіх войскаў азначаў бы для Легніцы вызваленне 2900 кватэр і вырашэнне жыллёвай праблемы ў гэтым горадзе.

**Хрысціянска-грамадская унія (УХС) арганізавала ў Варшаве экуменічны форум** на тэму „Надзеі і пагрозы для экуменізму ў сённяшні час". Удзельнічалі ў форуме прадстаўнікі Польскай экуменічнай рады, польскага аддзела Хрысціянскага згуртавання мужчынскай моладзі (УМСА), рэдакцыі праваслаўнага часопіса „Тыднёвік Падляшскі" і евангелічнага — „Слова і Мысль". Сабраныя паказвалі на неталерантныя адносіны ў нашай краіне да меншасных веравызнанняў, выказваліся супраць увядзення навучання рэлігіі ў школах, баючыся дыскрымінацыі вучняў-некатолікаў.

**Рэферэндум у справе атамнай электрастанцыі ў Жарноўцы** адбыўся ў Гданьскім ваяводстве. 80 прац. чалавек, якія галасавалі выказаліся супраць будовы Жарнавецкай АЭС.

**Справа стварэння тэлевізійнага цэнтра ў Беластоку** была тэмай сустрэчы кіраўніцтва Радыёкамітэта з дзеячамі Таварыства развіцця тэлевізіі ў Беластоку.

**Два члены Мусульманскага рэлігійнага саюза** вярнуліся з Саудаўскай Аравіі. Упершыню пасля II сусветнай вайны польскія мусульмане па запрашэнні Лігі мусульманскага свету паломнічалі ў Мекку і Медыну.

**У ваеннай часці ў Гайнаўцы** тры невядомыя мужчыны напалі на вартавога. Пабіўшы салдата, злачынцы забралі ў яго зброю і 30 патронаў.

**Землетрасенне ў паўднёва-ўсходняй Еўропе** адчувальнае было таксама на тэрыторыі Польшчы. Некалькі мінут страху перажылі жыхары вышэйшых паверхаў у раёне Пяскі ў Беластоку, калі пачалі хістацца жырандолі і падвешаныя да столі кветнікі.

**Сям'і і блізкім з прычыны напаткаўшага іх вялікага гора — смерці**

**КАСТУСЯ СІДАРОВІЧА**

**шматгадовага дзеяча ТБШ, БГКТ і супрацоўніка „Нівы"**

**спачуванні выказваюць**
**працаўнікі „Нівы"**
**і ГП БГКТ**

# ЗАЯВА

У сувязі з назначэннем юрыста Леха Лебэнштэйна ваяводскім пракурорам, заяўляем наступнае:

Дэклараваная палітыка дзяржаўных уладаў выразна вызначае, што судовыя і пракурорскія службы павінны быць дэпалітызаваны. Значыць гэта, што ва ўспомненыя органы могуць быць назначаны толькі тыя грамадзяне, якія не звязаны з ніякімі палітычнымі арганізацыямі. Прызначэнне на пасаду ваяводскага пракурора юрыста Леха Лебэнштэйна, старшыні Грамадзянскага камітэта ў Беластоку, лічым парушэннем вышэйвыказаных прынцыпаў. Беларускія асяроддзі ўспрынялі гэты акт як недэмакратычны. Ён пярэчыць дэкларыванай палітыцы ўрада. Лічым, што такую важную функцыю павінен выконваць грамадзянін, які не належыць да ніякай палітычнай групоўкі і з добрым веданнем нацыянальна-рэлігійнай спецыфікі рэгіёна.

**Старшыня ГП БГКТ**
**д-р Аляксандр Баршчэўскі**
**Старшыня ГР БДА**
**мгр Сакрат Яновіч**
**Старшыня ГР БАС**
**Яўген Вапа**

Беласток, 1990-05-02.

# ДОМ СКАРЫНЫ Ў ПОЗНАНІ

Пад такім загалоўкам у 20 нумары „Літаратуры і Мастацтва" Генадзь Лебедзеў змясціў артыкул, у якім на падставе зборніка дакументаў і матэрыялаў „Францыск Скарына" (укл. В.І. Дарашкевіч, Мінск 1988) высвятляецца, што Скарына, будучы ў Познані ў 1529—1532 гадах, жыў у доме-камяніцы Якоба Корба.

Аўтар піша: „Дом, у якім неаднаразова бываў Францыск Скарына, не згубіўся на працягу многіх стагоддзяў. Цяпер ён — адзіны ў свеце, які захаваў водгук крокаў нашага славутага земляка. Такіх дамоў, акрамя даўніх універсітэцкіх памяшканняў, невядома ні ў Кракаве і Падуі, ні ў Нюрнбергу і ў Празе, ні ў Вільнюсе і ў Калінінградзе (Кёнігсбергу), ні ў родным для Скарыны Полацку.

Варта было б паклапаціцца тым, хто мае на гэта магчымасць, каб у вызначаны ЮНЕСКА год святкавання 500-гадовага юбілею Францыска Скарыны на фасадзе дома нумар 82 на Рынкавай плошчы ў Познані з'явілася адпаведная мемарыяльная дошка. Яна б стала тут пакуль што адзіным сімвалам непасрэднай сувязі сучаснікаў са Скарынам."

Прапанова аўтара варта падтрымкі. На нашу думку, ініцыятыву ў гэтай справе павінны ўзяць у свае рукі беларускія арганізацыі ў Польшчы.




*Імпрэзу вялі Андрэй Сцепанюк і Славамір Іванюк.*

# Выбарчы фестын у Бельску

Бельскі Беларускі выбарчы камітэт паставіў на выбары ў гарадскую раду 16 кандыдатаў. І хоць Бельск — горад невялікі, то ўсё-такі выпадала паказаць тых кандыдатаў з твару, бо ж не ўсе там знаюцца, як у Плёсках ці, для прыкладу, у тых жа самых Кнагзах. Таму задумалі яны зрабіць сабе фестын у нядзельку 20 мая і „Дубіны" запрасілі, каб зайгралі на ім. Выбарчыя праграмы людзі наўрад ці прыйдуць паслухаць, але песні „Дубіноў" — так. Гэта называецца беларуская хітрасць. Але што значыць недацэньваць свайго працаўніка (палітычнага)? Сацыял-дэмакраты ў Бельску свой фестын наладзілі гадзіны чатыры раней і запрасілі на яго тры ансамблі з Гродзеншчыны! Я на іхнім фестыне не быў, бо мяне якраз забралі ў войска, але людзі казалі, што сацыял-дэмакратычныя кандыдаты прабавалі загаворваць да публікі па-беларуску. Ну, браткі мае! Як свет светам, такога ў Бельску не бывала. Праўда, не бывала ў Бельску раней і сацыял-дэмакратыі, але ж затое была камуністычная партыя, спадкаемцай якой і з'яўляецца сённяшняя Сацыял-дэмакратыя Польскай Рэчыпаспалітай. Значыць, нашы справы стаяць у Бельску не так дрэнна. А яшчэ не так даўно яны, можна сказаць, ляжалі. З намі пачынаюць лічыцца, а то і пабойвацца. „Газета Вспулчэсная" не абмінула паінфармаваць сваіх чытачоў, што фестын Беларускага выбарчага камітэта адбудзецца ў суботу, а фестын сацыял-дэмакратыі — у нядзелю. Адным словам, пусціла пыл у вочы, каб не сказаць — падманула. Але ж людзей у Бельску на такую мякіну не пусціш, бо і афішы ў горадзе былі, і піва якраз на нядзелю ў трох гатунках давезлі. Развітаўшыся з арміяй, я лётам бліскавіцы сігануў у Бельск і яшчэ перад пачаткам беларускай імпрэзы таго піва скаштаваў, так што не гавару тут па-пустому. Людзей за півам была хмара, не разбярэш, сацыял-дэмакраты ці беларусы, але мацюкаліся яны па-нашаму.

Публікі сабралося тысячы дзве з паловай. Імпрэзу вялі Андрэй Сцепанюк і Славамір Іванюк, яны ж і рэдактары газеты Беларускага выбарчага камітэта ў Бельску „Puls" (пра гэтае выданне будзе нагода пагаварыць іншым разам). Пятро Скепка і яго каманда спачатку падаліся мне трохі прымуленымі (яны ўжо былі абмузыкавалі ў той дзень імпрэзу Беларускага выбарчага камітэта ў Гайнаўцы. якую апісвае Юрка Ляшчынскі). Аднак з песні на песню „Дубіны" разварушыліся. І публіка таксама. Сяргей Лукашук рэкламаваўся як кандыдат на

(Працяг на стар. 4)



*Публікі сабралося тысячы дзве з паловай.*




**СЛАВАМІР АДАМОВІЧ**

*Вершы з цыкла „Бласлаўленьне адзіноты", ахвяраваныя аднаму зь нямногіх — Анатолю Сысу*

**ЖАНЧЫНЕ, ШТО ПАКІДАЕ МЯНЕ**

Душы маёй поўныя соты
Зьнішчайце пурпурам губ
І піце прагна, да рвоты,
З другімі ўступаючы ў шлюб.

Вазьміце мяне і зьешце
Як пепін ці бутэрброд,
І сплюньце рэшткі, нарэшце,
Са сьмехам проста за плот.

А хочаце, я, пасьцельны,
Увесь, як таматны сок,
Прыйду да вас на пахмельле
У раёне eleven o'clock.

І вы, захліпнуўшыся мною,
І я, вашых думак сьмех,
Закусім сыпкай халвою
Ня дадзены іншым грэх.

* ✻ *

Я ніколі ня лашчыў радкі свае,
Я іх біў па скулах і рэбрах,
Каб яны рассыпаліся іскрамі
І былі камусьці патрэбны.

І пакуль мне сьпявалі начальнікі
Пра імкненьне да еднасьці душ,
Я прадсэрдзяў крывавыя сальнікі
Прамяняў на пялёстачкі руж.

І было мне тады фіялетава,
Што там скажуць вучоныя лбы
Пра мяне і капелюш мой фетравы,
І пра цяжкія продкаў хлябы.

Я пішу на ружовых пялёстачках
І на цэтліках з крамы „Тытунь",
Каб мае неразьвітыя костачкі
Закапалі пад шчыльную рунь.

14.02.90 г.

**У КАВЯРНІ**

Калі прыходзяць фраеры ў кавярню,
а я адзін за столікам і пуста
у філіжанцы з абламанай ручкай,
мне сумна, злосна мне, сьвятло
вялікай люстры
таксама раздражняе, за стойкаю
бармэн агідна тлусты;

а я,
хацеў бы я тады душы знаёмай
сваю душу хоць крышку
прыадкрыць,
хацеў бы паказаць, як пакрыёму
блакітным палымцом яна гарыць;

гарыць,
але нашто,
і для каго,
і дзеля
чаго
гарыць?..

Аднак жа
вяртаюся ў кавярню, дзе пуста,
дзе фраеры, шархочучы „капустай",
бяруць маўкліва на душу па сто...

Адзін сяджу. а сільфы і анёлы
пакінулі мяне сам-насам з чымсьці,
чаму я не магу знайсьці найменьня.

і не магу я ўстаць. каб ціха выйсьці,
і ўсе хутчэй. хутчэй працэс
гарэньня.

17.04.90 г.

„Ніва"
10 VI.1990 г.

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АЎКЦЫЁН У КРАКАВЕ

Універсітэцкая аўкцыённая суполька „Antiqua“ аб'явіла 7 аўкцыён кніжак і графікі, які будзе праходзіць 19—20 чэрвеня г.г. у Collegium Novum Ягелонскага універсітэта ў Кракаве, вул. Галэмбя. № 24. Нашым бібліяфілам падказваем, што будуць прадавацца, між іншым, і такія пазіцыі:

Poz. 86 — List Hetmana J. K. Branickiego do chorążego Bromierskiego (w sprawach prywatnych i ekonomicznych), pisany 14 maja 1759 r. w Białymstoku. Cena wywoławcza 500 tys. zł.

Poz. 88 — Pokwitowanie odebrania dziesięciny ze wsi Malec przez proboszcza ciechanowieckiego K. Kluka — datowane 10 kwietnia 1773 r. C. w. 300 tys. zł.

Poz. 110 — Grafika A. F. Alesa z 1835 r. zatyt. „Nowogródek”, wymiary: 17x26 cm. C. w. 40 tys. zł.

Poz. 245 — Mapa połączeń pocztowych Rzeczypospolitej Polskiej. Arkusz 6: Brześć n/Bugiem, Stan z dn. 1 lipca 1936 r., Format 60,5x64 cm. C. w. 20 tys. zł.

Poz. 364 — „Ateneum Wileńskie”, R. 1: 1923 r., nr 3—4. C. w. 24 tys. zł.

Poz. 449 — „Rozprawy i sprawozdania z posiedzeń Wydziału Historyczno-Filozoficznego Akademii Umiejętności”, T. 10(1879). C. w. 36 tys. zł. (zawiera m. n.: T. Gromnicki — Święci Cyryl i Metody).

Poz. 450 — Jak wyżej, T. 11(1879). C.w. 36 tys. (zawiera m. in.: ciąg dalszy artykułu o świętych Cyrylu i Metodym).

Poz. 497 — Balawelder R., — Bug zaprasza do przygody, Warszawa 1939. C. w. 20 tys. zł.

Poz. 573 — Chętnik A., Spław na Narwi, Trątwy, oryle i orylka. Studjum etnograficzne z mapką i 82 ilustracjami, W-wa 1935. C. w. 24 tys. zł.

Poz. 740 — Hryniewiecki B., Zarys flory Litwy, W-wa 1933. C. w. 30 tys. zł.

Poz. 743 — Hurynowicz A., Zbiór rzeczy białoruskich (z gminy Wiszniewskiej, parafii Żodziskiej, pow. Święciańskiego, guberni Wileńskiej), Kraków 1893. C. w. 12 tys. zł.

Poz. 777 — Kamieński A., Szkice z Puszczy Białowieskiej (14 kartonów) — Warszawa 1912. C. w. 60 tys. zł.

Poz. 895 — Kirkor A. H., Teka wileńska wydawana przez Jana ze Śliwina, Nr 1—6, Wilno 1857—1858. C. w. 500 tys. zł (zawiera m. in.: K. Tyszkiewicz — Wiadomość historyczna o zamkach, horodyszczach i okopiskach starożytnych na Litwie i Rusi Litewskiej — ok. 140 stron)

Poz. 983 — Lencewicz S., Pawłowski S., Polesie et Białowieża, Directeurs..., Varsovie 1934 r. C. w. 6 tys. zł.

Poz. 1187 — Rok bojów na Polesiu 1915—1916, Notatki i szkice oficerów 6 pułku Legionów Polskich, Warszawa 1917. C. w. 32 tys. zł.

Poz. 1334 — Unia na Litwie i na Białorusi, Memoryał przesłany J. Św. Piusowi IX..., Paryż 1862. C. w. 8 tys. zł.

Poz. 1384 — Wołłosowicz S., Litwa i Białoruś, Cz. 1: Budowa fizyczno-geograficzna, W-wa 1920. C. w. 15 tys. zł.

Для ахвотных прыняць удзел у аўкцыёне пісьмова падаем адрас, на які трэба кіраваць заказы: Uniwersytecka Spółka Aukcyjna „Antiqua”, ul. Westerplatte 20, 30-960 Kraków 1, skr. poczt. 869, „Aukcja”. У заказах неабходна падаць нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, першае слова загалоўка і найбольшую суму грошай, якую заказваючы згодны заплаціць за рукапіс, графіку, часопіс, карту ці кніжку.

**Пётр Байко**

## НЕКАЛЬКІ ХВІЛІН...

Нас, студэнтаў-басаўцаў было 8 чалавек. Прыехалі ў Гродню на фестываль, „каб паскакаць“ (так заўважыў таможнік, калі пабачыў нашы рукзакі, невялікія, але цяжкія, быццам поўныя камення, а не кніжак для сяброў з „Паходні“ і Музея Багдановіча).

На жаль, фестываль „Рок-Крок“ адкліканы. Мікола Таранда пачаставаў нас, чым мог, і адправіў на аўтобусе з экскурсіяй з Музея рэлігіі ў Жыровічы.

Пасялілі нас у інтэрнаце тэхнікума, да якога мы ледзь дабраліся праз процьму машын, кіёскаў і вернікаў, якія аблягалі цэрквы і манастыр у гэты святочны дзень Іконы Жыровіцкай Божай Маці.

Чуваць беларуская, паляшуцкая мова, але акружае нас рускі гоман. Ля крыніцы са святой, аздараўляючай вадой стаіць алтарык. Тут моляцца, а ззаду, пры басейніку, дзе людзі збіраюць ваду ў слоікі — сварка: чарга не хоча прапусціць жанчыну, якая спяшаецца на аўтобус. Сварка недарэчная, грубіянская, як усе такога роду ў чэргах.

Жах — не можам нічога купіць у крамах, нават паесці, толькі хлеб, бо няма ж у нас савецкіх пашпартаў!

Рыхтую бутэрброды для ўсіх. Надаваў нам Мікола ўсяго — мусіць, апустошыў увесь свой халадзільнік. Рэжу смакавіты хлеб, каўбасу... У пакой увайшоў худзенькі хлопец, Алег, жыхар гэтага інтэрната. Сеў.

— А як там у Польшчы?

Завязалася размова. Я — па-беларуску, ён — па-руску. Прыйшлі сябры. Весік Харужы адразу ўручыў Алегу „Кароткі абрыс гісторыі Беларусі“.

— Ты яму не давай! — абрушылася Тася. — Не прачытае.

Пасля ажно ахрыпла ад злосці.

— Ну і рассмяшылі вы мяне! — сказаў Алег на наш гарачы заклік вучыцца беларускай мове, на нашыя папрокі.

— А чым менавіта?

— Вы ж гаворыце на ломанай рускай мове! Перш навучыцеся гаварыць добра па-руску, а потым будзеце н а с вучыць. Пэўна, і па-польску не ўмееце. Нам ніякая беларуская мова непа-

## ВЫБАРЧЫ ФЕСТЫН У БЕЛЬСКУ

(Працяг са стар. 3)

чале сваёй магутнай каманды „Васілёчкі“, а Васіль Ляшчынскі (ён жа і шэф БВК у Бельску) пусціў на эстраду свае „Жучкі“. Іншыя кандыдаты такіх козыраў не мелі, але таксама прэзентаваліся няблага. З прысутных на фестыне славутасцяў палітычна-мастацкага жыцця мае рэпарцёрскае вока запрыкмеціла Сакрата Яновіча, Аляксандра Баршчэўскага, Віктара Стахвюка і Лявона Тарасэвіча (хоць ён і хаваўся ў натоўпе). Мой фотаапарат тым разам мяне не падвёў і зарэгістраваў тое, што і відаць побач, калі ўжо дамовімся, што на здымках у „Ніве“ ўвогуле нешта відаць.

**Ян Максімюк**
Фота аўтара

## ... І Ў ГАЙНАЎЦЫ

„Сардэчна вітаем на беларускім фестыне“ — такі лозунг красаваўся 20 мая ў гайнаўскім амфітэатры. У гэты сонечны, нядзельны дзень Беларускі выбарчы камітэт у Гайнаўцы супольна з мясцовым аддзелам БГКТ арганізавалі народны перадвыбарчы фестын.

Мерапрыемства пачалося каля гадзіны першай пасля абеду, і, што тут ні казаць, надвор'е яму паспрыяла. Паўтаратысячная публіка на працягу добрых трох гадзін глядзела цікавы спектакль.

Галоўнай мэтай фестыну было знаёмства з кандыдатамі ад Беларускага выбарчага камітэта ў гарадскую раду. Кандыдаты прадстаўлялі сябе, сваю праграму, адказвалі на пытанні публікі. Таксама тлумачылі спосаб галасавання.

Прэзентацыя беларускіх кандыдатаў была ўзбагачана мастацкай часткай і выступленнямі беларускіх дзеячаў: Аляксандра Баршчэўскага — старшыні ГП БГКТ і Сакрата Яновіча — старшыні Галоўнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Прамоўцы заклікалі гайнаўян пайсці на выбары і галасаваць на кандыдатаў ад Беларускага выбарчага камітэта.

У мастацкай частцы гайнаўскага свята ўдзельнічалі „Дубіны“, лідэр якіх Пётр Скепка таксама кандыдуе ў раду, беларускі хор мясцовага Дома культуры, дзіцячы калектыў „Бядронкі“ (спяваў таксама на польскай мове). Бася Гінште — вучаніца мясцовага белліцэя — зачытала па-мастацку некалькі беларускіх патрыятычных вершаў.

На фестыне можна было таксама купіць беларускія выданні: кніжкі „белавежцаў“, студэнцкія „Сустрэчы“ і іншыя.

Шкада толькі, што нацыянальная сімволіка ўвогуле адсутнічала. Тым не менш нядзельнае свята можам смела залічыць да ўданых.

**Ю. Ляшчынскі**




*На эстрадзе „Жучкі“.*



*У першым радзе — кандыдаты ў гарадскую раду.*




## РЫБАЛАЎСКІ ПРЫХОД

З вялікай цікавасцю прачытаў я ў „Ніве“ ад 8 красавіка 1990 г. гістарычны нарыс „Рыбалаўскі прыход“. Адразу ўспомнілася, што ў час пошукаў беларускіх старажытнасцяў у віленскай бібліятэцы Акадэміі навук сустрэліся мне дзве рукапісныя кнігі, лёс якіх звязаны з Рыбаламі. Спадзяюся, што ніжэй пададзеная інфармацыя пра іх будзе цікавая для мясцовых краязнаўцаў.

Абодва рукапісы датуюцца XVIII стагоддзем і звязаны са святарамі Рыбалаўскай царквы — Іакавам і Сцяпанам Грыманеўскімі. Больш старажытная кніга — Посная Трыёдзь, налічвае 118 аркушаў вялікага фармату. Яна мае прыпіску ад 13 сакавіка 1710 года: „айцец Сцяпан Грыманеўскі, прэзбітар Рыбалаўскі, пратапопа Падляскі рукою ўласнаю. Сія кніга нададзена ёсць да царквы Тыкоцінскай на вечныя часы, а тут да Рыбалаў ёсць узятая пазычным спосабам, павінна будзе прывярнуці да тае царквы Тыкоцінскай“. Айцец Сцяпан Грыманеўскі падпісаўся і на другой кнізе — Анфалагіёне, таксама ў сакавіку (16), але ўжо 1735 года. А заказаны быў Анфалагіён „за старанем чэснага айца Іакава Грыманеўскага, на той час прэзбітара царквы Рыбалаўскай, року тысяча седм сот чатырнаццатага“. Пачынаючы з другой старонкі гэтай вялікай (413 фаліёвых аркушаў) кнігі, па ніжнім беразе ідзе ўкладны запіс: „Сія кніга, глаголемая Празднея, нададзена ёсць да царквы Рыбалаўскай залажэння святых лекараў Кузьмы і Дзямяна ад парафіян тае ж царквы на імя Іаана, Парфенія, Лук'яна і Сцяпана Еўстафіевіч, за каторую кнігу далі тынфаў чатырыдзесяць і шэсць...“.

У віленскую Акадэмічную бібліятэку Анфалагіён трапіў са зборамі былой віленскай Публічнай бібліятэкі, куды яго ў 1867 г. ахвяраваў святар Рыбалаўскай царквы а. Рыгор Кудрыцкі. Кніга гэта мае вельмі разнастайную і прыгожую аздобу. Характэрная асаблівасць — ужываюцца гравюры-застаўкі, ініцыялы (загалоўныя літары) і побач — застаўкі і ініцыялы, напісаныя ад рукі. Але напісаныя так дасканала, што нічым не адрозніваюцца ад надрукаваных. Мастацкі стыль заставак Анфалагіёна — так званы друкарскі арнамент, выканаць іх мог толькі добра спрактыкаваны майстар. Хто ж гэта быў? Адказ знаходзіцца на тытульным аркушы. Тут у сярэдзіне друкаванай віньеткі ад рукі напісана: „Анфалагіён, што значыць Празднея. Гаспадскім і багародзічным і святым нарачытым сціхіры, параміі, каноны і прочая. Спісася ў свяцей лаўры Супрасльскай рукой многагрэшнага раба Божыя іераманахэ

(Працяг на стар. 7)



# IX ДНІ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ

(Працяг са стар. 1)

Чайкоўскі, а мала спяваюцца мелодыі, якія можна пачуць у цэрквах на багаслужбах у кожную нядзелю, у кожнае свята. Словам, замала ў фестывалі штодзённага літургічнага спеву. Седзячы сярод натоўпу людзей у царкве, я чула якраз у час выступленняў такія словы: о, гэта спяваецца над пакойнікам, а гэта — пры іншай нагодзе. А пры адной песні жанчыны ціха падспеўвалі, бо хор заспяваў вядомую ім мелодыю. Трэба смела дапускаць вясковыя царкоўныя хоры на гэты фестываль.

Ляўкова Старое зрабіла ўражанне сваім паяўленнем — увайшлі з ціхім спевам „Воскресение Твое“. Ляўкоўскія жанчыны былі ў белых карункавых хустачках — звычай, які вядзецца ад часоў апостала Паўла: жанчыны прыходзілі на багаслужбы з накрытай галавой.

Выступілі таксама ўпершыню на конкурсе хоры з Новага Беразова (дыр. а. Сяргей Стальбоўскі) і з Нараўкі (дыр. а. Расціслаў Беламызы). Быў гэта ўжо другі дзень конкурсных спеваў. Хор з Новага Беразова цікавы, галасісты (альты якія!), адважны, спявае ў народным стылі. І ў гэтым напрамку такія хоры павінны развівацца. Толькі не з такой праграмай, якую яны прадставілі на фестывалі. Напрыклад, у творах слаўных кампазітараў шмат высокіх тонаў для дыскантаў, якія вясковыя харысты не змаглі адолець. Добрай радай будзе для ўсіх меншых вясковых хораў, вялікім прыхільнікам якіх я з'яўляюся: не рвіцеся адразу завысока, працягвайце традыцыі царкоўнага спеву, якія ў вас склаліся за многія дзесяцігоддзі.



*Хор душпастырства праваслаўнай моладзі ў Беластоку — I узнагарода.*

Ваш царкоўны спеў шырокі, як мора, і нязмерна багаты. Чэрпайце шчодрай рукой з агульнадаступных царкоўных спеваў праваслаўя!

Хор з Нараўкі запалоніў сваім спакойным, прыемным спевам. Складаецца хор у большасці з моладзі. У іх добрае вымаўленне слоў (чаго нельга сказаць нават пра некаторыя гарадскія хоры, якія дыхаюць на паўслове), чыстыя галасы. „Иже херувимы“ і „Блажен муж“ заспявалі дасканала.

Вельмі цікавы быў мужчынскі хор „Ісон“ з Беластока (выступіў у першы дзень), якім дырыгуе дзяўчына — Анна Артэмюк. Хор — не навічок на фестывалі. У гэтым годзе ён прадставіў манастырскія напевы. Нагадвае ён вядомы балгарскі хор „Іаан Кукузел“, які прымаў удзел у адным з папярэдніх фестываляў.



*„Ісон“ — мужчынскі хор сабора св. Мікалая ў Беластоку — II узнагарода.*

Другім хорам з Беластока быў хор душпастырства праваслаўнай моладзі, які спявае цяпер пад кіраўніцтвам Аляксандра Лысынкевіча. Гэта хор, які ў 1982 г. арганізаваў Васіль Дубец. Хор маладых людзей. З вялікай будучыняй. Моцныя, добрыя галасы, энергічнае шырокае дырыжорства. Усё хвалюе і парушае. І тады, калі хор спявае пакорліва і натхнёна, і тады, калі — трыўмфальна і пераможна. Хор у сваёй праграме мае старабеларускія кампазіцыі, дзве з якіх выканаў.

Хор Уваскрасенскай царквы з Бельска пад кіраўніцтвам а. Івана Шмыткага мае многа з народнага. Хор энергічны, добрыя галасы, хоць не да канца яшчэ згарманізаваныя. І хочацца бачыць у бельскім уваскрасенскім хоры ў будучыні рэпрэзента-

## НАША ПОШТА

**Шаноўная рэдакцыя!**

З гэтага года я з'яўляюся падпісчыкам Вашае газеты, але маю вялікія цяжкасці з атрымоўваннем „Нівы“. З-за дрэннай працы беларускай пошты я не атрымаў першых чатырох нумароў тыднёвіка, а з сакавіка 1990 г. Вашае выданне зусім перастала прыходзіць. Апошні атрыманы нумар — № 12 (1767) за 25 сакавіка 1990 г. (між іншым — цікавае супадзенне). Я звяртаўся за растлумачэннямі ў адпаведны аддзел „Саюздруку“ Міністэрства сувязі БССР, але мне там паведамілі, што затрымка з дастаўкай выдання — гэта віна польскага боку, і што, магчыма, Вы ўжо не выдаеце тыднёвік. Такім чынам савецкі бок адказнасць за гэта адкінуў, і я не ведаю, куды далей звяртацца.

Жадаю давесці да Вас, што ў апошні час з газетных кіёскаў Мінска зніклі ўсе выданні з Польскай Рэспублікі, а на маё запытанне на пошце што да Вашае газеты, адказваюць: „Вы што, не ведаеце, што робіцца ў Польшчы?“

Паважаная рэдакцыя, адкажыце, калі ласка, што робіцца ў Польшчы і ў прыватнасці ў яе беларускім асяродку. Чаму беларусы ў БССР не атрымоўваюць „Ніву“ і які бок у гэтым вінаваты? Калі „Ніва“ выходзіць рэгулярна і нармальна паступае на Беларусь, прашу Вас, калі гэта магчыма, прыслаць мне аб гэтым нейкую афіцыйную паперу, каб у мяне была зброя дзеля барацьбы з нашай бюракратыяй з Міністэрства сувязі.

Адкажыце таксама, калі ласка, ці дапаможа падпісчыкам „Нівы“ звяртанне ў Генеральнае Консульства Польскай Рэспублікі ў Мінску да супрацоўнікаў гэтай установы, адказных за культуру. Хачу падкрэсліць, што не адзін я не атрымоўваю газету. Гэта датычыць усіх Вашых падпісчыкаў у Мінску і на Беларусі.

**Вадзім Гурыновіч, Мінск**

**Ад рэдакцыі:** Экспарт польскіх выданняў ва ўсе ўсходнія краіны, у тым ліку і ў СССР, быў з-за фінансавых прычын спынены 1 красавіка г.г. Аказалася, што экспарт часопісаў для польскага боку, а дакладней — для фірмы „Арс Полёна“, стаў нерэнтабельным і зараз прыносіць страты. Цэны гадавой пад-

 

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Удзельніцы конкурсу „Беларуская песня '90" для школьнікаў — калектыў „Крынічанька" са школы ў Кляшчэлях. Мастацкі кіраўнік Яўгенія Такаюк. Фота Я. Чэрнякевіч.



Моніка Конюх і яе апякун і акампаніятар Сцяпан Копа з Беластока. Моніка заняла II месца на сёлетнім цэнтральным аглядзе.



Аня і Івона Місеюк з Беластока занялі, спяваючы ў дуэце, на цэнтральным аглядзе другое месца. Рыхтавала іх да конкурсу Ірына Макац.

Пятрусь Макаль

### МАЕ КАНІКУЛЫ

На канікулы  
Ішоў я ў вёску  
Сцежкай праз густую сенажаць.  
З кнігаю любімай пад бярозкай  
Марыў я ў спякоту паляжаць...  
Улыхаў грудзямі пахі кветак —  
Пахі аксамітных мурагоў.  
Думаў, што наведаю за лета  
З усяго раёна дружбакоў.  
Гэтак марыў... Але толькі дома  
Здарылася крыху па-другому.

Ледзь кранулі слых касілак гукі,  
І мяне ў пакоі не ўтрымаць:  
Лейцы сырамятныя — у рукі  
І гайда к сябрам на сенажаць.

Там касілку асядлаўшы жвава,  
Лейцы тыя нічасны я трымаў.  
І плылі, плылі насустрач травы —  
Цэлы акіян зялёных траў.

Спелых каласоў узняўся гоман  
Гэтак, што пачула ўсё сяло.  
І зноў не мог я ўседзець дома,  
Бо спакою ў сэрцы не было.  
Са жняяркай  
Пад спякотным сонцам  
Я ныраў між хваль жытоў бясконцых.

А пасля — снапы да малатарні  
Збожжа — на вялізны грузавік.  
Можа, і не быў з мяне ўдарнік,  
Але ўсё ж — няпрэнны працаўнік.

Вісарыён Гарбук




Лідачка расплюшчыла вочы: „Няўжо праспала?" Падскочыла да будзільніка. Так і ёсць! Яна хуценька нацягнула сукенку і зазірнула на кухню.

— А я толькі што збіралася па крапіву ісці, — пажартавала маці. — Мыйся ды хутчэй за стол!

За сняданкам Лідачка засмяялася:

— Мама, ледзь не забылася. Сон бачыла. Такі дзіўны! Ляжу на белай-бялюткай пасцелі, а вакол мяне — кветкі... Учора мы з Надзяй ля рэчкі вянкі плялі. І дамовіліся ў ягады ісці... Ой, што з табой, мама?! — усклікнула дзяўчынка, убачыўшы, як збялела маці.

— Ды... нічога, — сказала маці. — Нешта сэрца сціснула. Не дыхнуць.

Лідачка прыціхла. А паеўшы, папрасілася:

— Можна, мама, у лес схадзіць? Кажуць, суніц поўна. Чаму ты так глядзіш на мяне?

— Пабудзь дома! — папрасіла маці. — Тата павінен прыехаць...

— І яму прынясу. І табе, мамачка... Можна?..

— Толькі не адна, а з Надзяй і Сёмкам.

Лідачка падскочыла да маці, пацалавала яе. Запляла коску, знайшла ў сенцах на паліцы берасцянку і пабегла да суседкі. Надзі і яе браціка не было.

Лідачцы захацелася піць, і яна вярнулася дахаты. Квас быў у сенцах. Дзяўчынка напілася, падышла да дзвярэй у хату і раптам пачула размову.

— Не к дабру гэта, — казала маці. — Некалі маёй сястры прысніўся сон пра брата Мікалая. Нібыта ён спіць, а вакол яго — кветкі. Да змяркання і сканаў...

— Не ўсе ж сны праўдзяцца. Лідачка пазнала голас цёткі Дар'і. — А дзе Лідачка?

— У ягады пайшла, — адказала маці. — Я ўжо шкадую, што пусціла.

Лідачка на пальчыках выкралася з сенцаў і — наўцёкі. Лес быў недалёка, кіламетры за два. Дарога ішла праз поле і цераз рэчку. Апынуўшыся за вёскай, дзяўчынка спынілася, каб аддыхацца.

„Ну і што з таго, што сніліся кветкі? А потым я прачнулася, і нічога не было..."

Але Лідачка міжволі задумалася. Ёй прыпомніліся дзве смерці, якія яна бачыла.

Першая была год назад. Пад машыну трапіў Юрка, з якім яна сядзела на адной парце. Лідачка ўбачыла хлопчыка ў труне, і ёй здалося, што Юрка проста заснуў. На другі дзень, калі села за парту адна і зразумела, што ніколі больш не

(Працяг на стар. 10)



 

